*Стэла ІВАНОВА,*

***дырэктар абласнога Цэнтра народнай творчасці:***

# «САПРАЎДНЫ ПАДМУРАК КУЛЬТУРНАЙ ПАЛІТЫКІ — ГЭТА ЧАЛАВЕК,

## аб правах якога мы шмат і прыгожа навучыліся гаварыць. А што робім, каб дапамагчы яму далучыцца да скарбаў духоўнасці?..»

***— Стэла Станіславаўна, у сваім дакладзе на нядаўняй навукова-практычнай канферэнцыі па развіццю народнай самадзейнай творчасці вы адзначылі: "Яшчэ некалькі гадоў назад мала хто задумваўся аб рэальным развіцці культуры..." Ці не занадта было сказана?***

— Ніколькі. Пабудуем, бывала, культасветустанову і не перастаём пляскаць у ладкі. Убачым у гадавых справаздачах некалькі новых калектываў — зноў няма мяжы захапленню. А сапраўдны падмурак культурнай палітыкі — гэта чалавек, аб правах якога мы шмат і прыгожа навучыліся гаварыць. А што робім, каб дапамагчы яму далучыцца да скарбаў духоўнай культуры, узбагаціцца імі? Шчыра прызнаюся: да многага не даходзім. Ні розумам, ні рукамі. Кожнага павінна хваляваць пытанне: як сёння выжываюць установы культуры, як зберагаем родную спадчыну, развіваем таленты людзей? Вусцішна становіцца, калі даведваешся, што клубы прадаюцца камерцыйным структурам. Ёсць чым, безумоўна, нам і ганарыцца. Многія калектывы мастацкай самадзейнасці сваё майстэрства дэманструюць нярэдка ў блізкім і далёкім замежжы.

***— Яшчэ нядаўна існавала, на мой погляд, добрая традыцыя — у гонар знамянальных гістарычных дат праводзіць агляды, фестывалі, дэкады народнай творчасці. Цяпер на такіх рэвалюцыйных датах пастаўлены крыж. На фестывалях, аглядах — таксама?***

— На Міншчыне такая традыцыя пакуль жыве. І хачу запэўніць: будзе жыць. Цікава прайшоў агляд калектываў сельскай мастацкай самадзейнасці. Паспяхова правялі творчую "інвентарызацыю" ў раённых і гарадскіх Дамах культуры. Дарэчы, гэтую катэгорыю культасветустаноў мы "прасвечвалі" ўпершыню. Убачылі шмат цікавых калектываў, індывідуальных выканаўцаў.

***— Хацелася б больш падрабязна пачуць пра іх творчыя здабыткі, праблемы.***

— Пачну з апошняга. Нявырашаных праблем яшчэ шмат. Возьмем песню, гэтую вечную спадарожніцу чалавека. Нярэдка слухаеш той ці іншы калектыў і адрозніць не можаш: спяваюць слуцакі ці пухаўчане? Карацей кажучы, хары не маюць свайго твару. А гэта таму, што іх кіраўнікі не ведаюць традыцый роднага краю, абыякава падыходзяць да рэпертуару. Свой непаўторны песенны каларыт маюць толькі некаторыя калектывы. Вельмі паказальны прыклад артыстаў вёскі Морач, што ў Клецкім раёне. Нашчадкам сваім старэйшыя ўдзельнікі самадзейнасці перадаюць і манеру спявання, і гук, і песню матчыну. Вялікую цікавасць да самадзейнасці праяўляе старшыня мясцовага сельскага Савета Марыя Мікалаеўна Майсак. Яна, вобразна кажучы, бензін з-пад зямлі дастане, каб артысты вёскі змаглі дабрацца на той ці іншы фестываль. Заўсёды яе можна бачыць на рэпетыцыях.

Але вернемся да рэпертуару. Не прынята цяпер спяваць пра Радзіму, партыю, вялікіх кіраўнікоў... Кветачкі, рэчачкі, бярозкі, вербачкі, няўдалае каханне — вось галоўныя тэмы сённяшніх песень. Таму і гучаць амаль на кожным канцэрце "Шэрая лашадачка", "У садзе гуляла", "Дзе мая Маруся?", "На вуліцы — грымата" і інш.

Крывяць душой тыя, хто гаворыць, што няма цікавых твораў гэтага жанру. Ад старадарожцаў такога не пачуеш — там наладжваюць экспедыцыі па пошуку цікавых песень. Дарэчы, сабралі іх столькі, што на дзесяткі калектываў хопіць.

Крыўдна, што многія вядомыя ў мінулым калектывы альбо зусім "паміраюць", альбо пераўтвараюцца ў невялікія ансамблі. Разваліўся Крывіцкі народны хор, не чуваць голасу спевакоў з вёскі Вясея Слуцкага раёна, здае свае пазіцыі Лявонавіцкі народны хор... Такі спіс можна прадоўжыць. Перакانана, што спасылкі на недахоп бензіну, транспарту, вопытных кадраў не маюць пад сабой падставы. Там, дзе клапоцяцца аб культасветустановах, арганізацыі вольнага часу насельніцтва, такога не назіраецца.

***— Стэла Станіславаўна, ствараецца ўражанне, што фальклор "забівае" ўсе астатнія жанры. Ці не перабор атрымліваецца?***

— Згодна з вамі. Пайшоў сапраўдны фальклорны "вал". І мяне гэта палохае. У вывучэнні вуснай народнай творчасці нам яшчэ трэба прайсці лікбез, хаця многія ў гэтай справе лічаць сябе прафесарамі. Нядаўна сумесна з Інстытутам праблем культуры была арганізавана школа фалькларыстаў. Дрэнна, што многія раёны вобласці не прыслалі на заняткі сваіх прадстаўнікоў. А вучыцца трэба. Задача пастаўлена так, каб у кожным аддзеле культуры быў спецыяліст па фальклору.

***— А цяпер, калі ласка, давайце пагаворым пра народны танец.***

— На жаль, жанр харэаграфіі на Міншчыне развіваецца слаба. Танцуюць у асноўным дзеці, у большасці сваёй — дзяўчынкі. У мяне вялікая надзея на класы харэаграфіі, якія створаны пры школах мастацтваў. Кожны, хто займаецца народнай харэаграфіяй, павінен вывучаць танцы ў месцах іх з"яўлення. Шмат у гэтым кірунку зроблена лабараторыяй харэаграфіі Мінскага універсітэта культуры, дзе вывучаны і запісаны танцы многіх рэгіёнаў нашай вобласці. Але гэты скарб ляжыць некранутым у папках, а мы, як і шмат гадоў назад, танцуем "Крыжачок", "Лявоніху" ды кадрылю. Балетмайстры, якіх выпускаюць універсітэт культуры, вучылішчы, граматна абучаны, тэхнічна падрыхтаваныя, але гэта толькі іх уваходзіны ў прафесію, хаця яны і маюць дыпломы.

***— Не зразумеў...***

— Тады пачну з пытанняў. Ці можна наогул народны танец ствараць? Ці патрэбна? Ён жа ўжо даўно створаны. На маю думку, фальклор у чыстым выглядзе на сцэне немагчымы. Справа ў тым, што я не магу танцаваць так, як рабілі гэта нашы бабулі, фізічна не магу! Час іншы, светапогляд іншы, іншыя тэмпарытмы жыцця. Немагчыма скапіраваць бабуль, дакладна перадаць іх рухі, іх адносіны да кавалера. Я магу выконваць гэты ж танец толькі так, як павінен гэта рабіць сучасны чалавек. Гэта таксама фальклор, толькі прыстасаваны да сённяшніх рэалій жыцця.

***— Некалькі слоў пра інструментальныя калектывы.***

— І яны не могуць пахваліцца рэпертуарам. Цяпер спецыяльна для іх ніхто не піша. Чым можам — дапамагаем. Заключаем пагадненні з прафесійнымі музыкамі на апрацоўку твораў для таго ці іншага калектыву, але гэта кропля ў моры. І самі кіраўнікі такіх калектываў не праяўляюць ініцыятывы і вынаходлівасці. Прывучылі мы іх жыць на ўсім гатовенькім. Раблю такую выснову таму, бо ва універсітэце культуры, акадэміі музыкі, вучылішчах захоўваецца нямала дыпломных работ студэнтаў, у якіх — інструментоўкі для самых розных аркестравых калектываў: і духавых, і народных, і ансамбляў. Пры жаданні з усім гэтым можна пазнаёміцца. Ды нашы спецыялісты не спяшаюцца дакрануцца да вечных скарбаў Бацькаўшчыны. Тым больш што і па іншых прычынах можа наступіць знікненне такіх калектываў. Стала невырашальнай праблемай набыццё самага звычайнага — струн, трысцінак. Наогул не ведаю, дзе зараз купляць такія інструменты — рэспубліка іх не выпускае.

Недаравальна і тое, што распаўся адзіны ў вобласці Дзяржынскі цымбальны аркестр. А гэта ж быў наш музычны гонар!

***— На Міншчыне шмат цудоўных індывідуальных выканаўцаў, якія іграюць на самых розных інструментах...***

— Мне пашчасціла быць у некаторых экспедыцыях з кандыдатам мастацтвазнаўства Інай Дзмітрыеўнай Назінай, дзе яна рабіла запісы для падрыхтоўкі грампласцінкі "Музычны фальклор Міншчыны". Вы б бачылі, як свецяцца вочы ў гэтых людзей, калі яны іграюць свае мелодыі, з якім гонарам яны расказваюць пра свае інструменты, іх "біяграфію". Усе яны заслугоўваюць павагі і падтрымкі.

***— У антыалкагольны перыяд арганізоўваліся курсы пастаноўшчыкаў лімонадных вяселляў. Прыдумваліся сцэнарыі, адарваныя ад канкрэтных абставін, і дасылаліся ў культасветустановы. Сумна было на такіх урачыстасцях, бо ўсё распісана, усе жарты падрыхтаваны загадзя, прыдуманы кімсьці адным...***

— Дзякуй Богу, што такі час мінуў. Аб"ектыўныя сацыяльныя працэсы адбываюцца незалежна ад нашага жадання. Нягледзячы на самы жорсткі ўціск, народ захоўвае свае традыцыі, свае святы, цікава і захапляюча іх праводзіць. Варта адзначыць і тое, што ў вобласці склалася пэўная сістэма правядзення масавых святаў. Гэта візітныя карткі раёнаў і гарадоў "Слуцкія паясы", "Пеўчае поле", паэтычныя святы ў Вязынцы і Акопах, "Люцінка", "Каласавіны", "Жывіца", "Дзяржынскія зарніцы". І вось яшчэ адно — "Любанская вандроўка", праведзеная нядаўна. Цудоўнае свята атрымалася — шмат любові, умення, выдумкі ўклалі ў яго арганізатары.

Лічу, што асобнай гаворкі заслугоўвае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Галоўнае тут — своечасовая падтрымка народных майстроў, бо яны апынуліся ў надзвычай складанай сітуацыі — вельмі дарагімі сталі сыравіна, інструменты, абсталяванне. Прывяду толькі адзін прыклад. Сёння кошт шпулькі нітак амаль роўны колішняму кошту пасцілкі. Адным словам, не да ткацтва народным майстрам. Ды і вырабы іх становяцца "залатымі", набыць іх зможа хіба толькі мільянер.

***— І апошняе. Чым бы вы хацелі закончыць нашу гутарку?***

— А тым, што наша грамадская свядомасць у выніку перабудоў і суверэнітэтаў атрымала шмат "прабоін". Але не трэба падаць духам. У гэтым ёсць і станоўчы момант — нарэшце культработнікі пачынаюць усведамляць, што на працягу дзесяцігоддзяў былі нахлебнікамі. Спасылаючыся на малую зарплату, працавалі напаўсілы. Сённяшні дзень прад"яўляе іншы рахунак. Хочаш лепш жыць, карыстацца ў людзей аўтарытэтам — лепш працуй.

*Гутарыў Уладзімір КОБРЫН.*

■ Энтузіясты

# НІБЫ ВЕЧНАЯ КРЫНІЦА

***Загадчык кафедры народнай песеннай творчасці Беларускага універсітэта культуры і адначасовы кіраўнік вельмі адметнага сваёй самабытнасцю калектыву мастацкай самадзейнасці "Валачобнікі", створанага пры гэтай навучальнай установе. Дарэчы, гэтыя пасады ўдала спалучае С.І.Дробыш. "Валачобнікі" сталі сапраўднай творчай лабараторыяй для будучых культработнікаў, як і для тых, хто тут вучыўся раней, бо лабараторыя С.І.Дробыша, нібы вечная крыніца, падсілкоўвае кожнага, хто сюды прыходзіць, новымі ідэямі, дапамагае вырвацца з кіпцюроў шэрай паўсядзённасці.***



Але, бадай, не ўсе ведаюць, што гэты чалавек з"яўляецца стваральнікам яшчэ некалькіх мастацкіх калектываў. У 1978 годзе ў выдавецтве "Полымя" ўбачыў свет маляўнічы буклет "Чароўныя мелодыі", у якім расказвалася пра хор Мінскага будаўніча-мантажнага аб"яднання "Мінскпрамбуд". Удзельнікаў самадзейнасці гэтага калектыву, як жаданых гасцей, сустракалі рабочыя Барысава і Маладзечна, Полацка і Салігорска, аматары песні Рыгі і Вільнюса, гарадоў Расійскай Федэрацыі. Хор будаўнікоў тады дэманстраваў сваё майстэрства ў Польшчы, Германіі, іншых краінах далёкага замежжа.

Меладычная песня мінчан нярэдка гучала ў вёсках Чэрвеньшчыны, над якой трымаў шэфства "Мінскпрамбуд". Цёплы прыём хлебаробаў і жывёлаводаў акрыляў самадзейных артыстаў, якімі кіраваў юнак з невялікай вёсачкі са Случчыны. Менавіта тады і адчуў Станіслаў Дробыш, што яму не хапае прафесійных ведаў. Ён становіцца навучэнцам Мінскага музычнага вучылішча, а пазней імкненне да ведаў прывяло яго ў Белдзяржкансерваторыю — цяпер Беларуская акадэмія музыкі. За шматгадовую працу ў самадзейнасці і высокае выканаўчае майстэрства С.Дробышу прысвоена званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

— Я ўдзячны лёсу, што ён звёў мяне з будаўнікамі, якія вельмі любілі народнае мастацтва, — згадвае Станіслаў Іосіфавіч.

Зазначу, што хору аднаму з першых у рэспубліцы было прысвоена званне "народнага". У сваім рэпертуары ён меў на той час каля 150 твораў. Гэта — "Вясенні карагод" Паўла Шыдлоўскага, "Мая рэспубліка" Івана Кузняцова, беларускія народныя песні "І туды гара і сюды гара", "Мой міленькі захварэў", "Кума мая, кумачка", "Ой, ты сонца яснае" і многія іншыя. А кампазітар Іван Кузняцоў спецыяльна для гэтага калектыву мастацкай самадзейнасці напісаў песню "Мінскіх будаўнікоў". Хор удзельнічаў ва ўсіх конкурсах, фестывалях і дэкадах беларускага самадзейнага мастацтва. Заўсёды яму спадарожнічаў поспех, бо Станіслаў Іосіфавіч пастаянна працаваў над павышэннем выканаўчага майстэрства ўдзельнікаў самадзейнасці, праводзіў вялікую выхаваўчую работу ў калектыве: арганізоўваў культпаходы, экскурсіі, сустрэчы з лепшымі калектывамі мастацкай творчасці, прафесійнымі майстрамі мастацтва рэспублікі, вечары адпачынку. Набыты вопыт народны хор актыўна перадаваў сваім падшэфным сябрам — харавому калектыву саўгаса "Індустрыя" Пухавіцкага раёна. Шмат разоў быў Станіслаў Іосіфавіч у гэтай гаспадарцы, дзе дапамагаў падбіраць рэпертуар, развучваць новыя песні.

Не злічыць колькі грамат, дыпломаў, падзячных пісем уручана самадзейным артыстам будаўнікоў. Хор заваяваў званне лаўрэата Рэспубліканскага агляду-конкурсу народных самадзейных калектываў прафсаюзаў Беларусі. Ён паспяхова выступіў на заключным Усесаюзным свяце народнай песні ў Саратаве, на Днях культуры нашай рэспублікі ў Маскве. Калектыў занесены ў кнігу Гонару мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў Міншчыны. Усяго гэтага мог дасягнуць чалавек, які самаадданa любіць мастацтва, які надзелены талентам весці за сабой людзей.

Цяпер Станіслаў Іосіфавіч Дробыш працуе з народным хорам Палаца культуры прафсаюзаў. З яго прыходам сюды гэты калектыў набыў другое дыханне. Аб чым яскрава засведчыла яго бліскучае выступленне на заключным канцэрце лаўрэатаў і дыпламантаў фестывалю народнай творчасці "Спадчына" г.Мінска.

А як працуе кафедра, даручаная С.Дробышу? Яе педагогі, студэнты выдатна паказалі сябе на фестывалі мастацтваў універсітэта культуры, які прысвячаўся 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Мікалай АГАРОДНІКАЎ, заслужаны работнік культуры рэспублікі.*

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі народнага хору Палаца культуры прафсаюзаў.

**Фота Міхаіла МІНКОВІЧА.**

■ АПК і рынак

**У вобласці на сённяшні дзень ёсць каля сямісот фермерскіх гаспадарак. У сярэднім на адно выходзіць 18 гектараў зямлі. 62 працэнты фермераў — вяскоўцы, астатнія — жыхары гарадоў і гарадскіх пасёлкаў. Звычайна імі становяцца не шматдзетныя сем'і — кожная з іх налічвае ў сярэднім 3 чалавекі, з якіх 2,3 — працаздольныя.**

# У АДЗІНОЧКУ НЕ ВЫЖЫЦЬ —

## так лічаць фермеры

Сённяшняя сацыяльна-эканамічная сітуацыя не вельмі падахвочвае браць зямлю і завіхацца на ёй з рання да позняга вечара. Паміж таваравытворцамі разарваны эканамічныя сувязі. На вачах усё абясцэньваецца, працягваецца няспынны рост цэн. Спадзяюцца фермеры ў асноўным на ўласную мускульную сілу, бо набыць зараз тэхніку можна толькі ў марах. Адзін мінскі трактар, да прыкладу, каштуе 90—100 мільёнаў рублёў. Не па кішэні і іншы сельгасінвентар. Праблема — узяць льготныя крэдыты. Даводзіцца ісці на здзелкі з рознага роду камерцыйнымі структурамі, нярэдка ў шкоду ўласным інтарэсам. Ці не таму ў 70-ці фермерскіх гаспадарках няма ніякай тэхнікі?

Цяжкасцей, адным словам, хоць адбаўляй. І ўсё ж трэба аддаць належнае фермерам — многія з іх працуюць стабільна, умела арганізуюць сваю вытворчую дзейнасць. Летась яны рэалізавалі дзяржаве 12 тысяч тон зерня, 512 — мяса, 1.445 — малака. У агульным аб'ёме даходаў ад продажу сельскагаспадарчай прадукцыі 79 працэнтаў атрымана ад раслінаводства і 16 — ад жывёлагадоўлі. Праўда, імі змаглі пакрыць толькі 71 працэнт усіх расходаў. 17 працэнтаў іх кампенсавана бюджэтнымі асігнаваннямі, астатнія — за кошт сродкаў банкаў і асабістых зберажэнняў.

Сёння адносіны да гаспадарання на зямлі неадназначныя. Ёсць гарачыя галовы, якія настойліва заклікаюць як мага хутчэй пахаваць калгасы і саўгасы. На іх думку, толькі аднаасобнік зможа ўдосталь накарміць нас мясам, хлебам, маслам і смятанай, напаіць малаком.

Не менш актыўна выказваецца і супрацьлеглы пункт гледжання: ніякіх фермераў. Раздай ім зямлю, і заўтра пустым акажацца наш стол. Пры гэтым могуць спаслацца на тое, што толькі 229 сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак на сваім падворку маюць буйную рагатую жывёлу і свіней. У сярэднім па вобласці на кожную гаспадарку выходзіць 2 каровы і 4,3 свінні.

Адсюль і вынікі. У агульным аб'ёме атрыманай Міншчынай сельгаспрадукцыі зерне фермера складае 0,9 працэнта, бульба — 0,6, малако — 0,9 і мяса — 1,8.

На рэчы варта глядзець цвяроза. Асноўны наш карміцель — калгасы і дзяржгасы. Без іх не выжыве не толькі гараджанін. Колькі пенсіянераў, урачоў, настаўнікаў, іншых работнікаў сацыяльна-бытавой і культурнай сфер на іх плячах! Бясплатная апрацоўка прысядзібных участкаў, індывідуальных сенакосаў, выдача прадуктаў у выглядзе натураплаты, камунальнае абслугоўванне і шмат якія іншыя паслугі сельскім жыхарам аказваюць калгасы і саўгасы. Дзе яшчэ знойдзеце такога спонсара?

Але гэта не азначае, што сельскагаспадарчая вытворчасць павінна заставацца без перамен. Развіваюцца і тут розныя формы ўласнасці. Фермерства ўведзена сёння ў ранг дзяржаўнай палітыкі, таму яго станаўленне немагчыма без кіраўніцтва з боку органаў улады. Тут многае залежыць ад таго, хто з'яўляецца першай асобай у раёне — гарачы прыхільнік адной толькі калектыўнай формы вядзення сельскай гаспадаркі ці актыўны праваднік у ёй рыначных адносін.

— Найбольш канкрэтна гэтай справай у вобласці займаюцца кіраўнікі райсельгасхарчаў: Клецкага — Мікалай Гадун, Дзяржынскага — Казімір Ксяневіч, Барысаўскага — Леанід Стэфанскі і некаторыя іншыя, — зазначае начальнік сектара па рабоце з фермерскімі гаспадаркамі аблсельгасхарча Анатоль Мялешка.

Па меры сваіх магчымасцей аказвае дапамогу фермерам і дзяржава. Летась на іх падтрымку было выкарыстана 1.435 мільёнаў рублёў. За паўгода асвоена 51,8 працэнта. На адну гаспадарку прыпадае дзесьці 9,3 мільёна. Па сённяшніх мерках — капейкі. Што за іх зробіш, калі, скажам, адзін кіламетр дарогі абыходзіцца ў 70 мільёнаў, падстанцыя — у межах 30—60 мільёнаў, свідравіна — да 140 мільёнаў? А заўтра цана яшчэ больш падскочыць.

Людзі разумеюць, што ў адзіночку ім не выжыць. Вось чаму яны імкнуцца падтрымліваць узаемавыгадныя сувязі з мясцовымі калгасамі і саўгасамі. У сваю чаргу і самі аб'ядноўваюць сродкі, тэхніку, распрацоўваюць агульны план сваіх дзеянняў. Менавіта падобны шлях выбралі шэсць фермераў калгаса «Шлях да камунізму» Клецкага раёна. Атрымаўшы акты на зямлю, яны адразу вырашылі ўсе работы выконваць супольна, разам. У цэлым жа па вобласці 138 фермерскіх гаспадарак аб'ядналіся ў рознага роду асацыяцыі і саюзы. Так ім лягчэй утрымацца на плаве, мець дадатковыя магчымасці для манёўру, пераадольваючы ўзнікаючыя перад імі цяжкасці.

Асэнсоўваючы набыты вопыт, мы павінны паразумнець і не паўтараць памылак, дапушчаных на першапачатковай стадыі развіцця фермерскага руху. Як можна разгарнуцца на ўчастку да пяці гектараў? А іх мае 140 гаспадарак. Практычна яны ствараюцца не з таварным, а з натуральным характарам вытворчасці.

Нярэдка зямля выдзяляецца далёка ад дарог і ліній электраперадач, часам на забалочаных ці закустараных участках, што патрабуе немалых дадатковых сродкаў на прывядзенне іх у нармальны стан.

Бывае, што фермерамі становяцца выпадковыя людзі. Яны не думаюць аб павышэнні ўрадлівасці глебы, высокіх ураджаях, прывагах жывёлы. А перш за ўсё — атрымаць ільготны крэдыт, які затым можна пусціць на іншыя патрэбы. Тым самым кампраметуецца фермерскі рух, наносіцца яму маральная шкода.

Фермерства, як уклад жыцця вяскоўца, ужо змагло заявіць пра сябе. Важна, каб яно развівалася раўнапраўна, нараўне з іншымі формамі ўласнасці і сельскагаспадарчай вытворчасці.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ Вот как бывает

# СЛУЧАЙНАЯ ВСТРЕЧА

**С ЮБИЛЕЙНОЙ ПЛОЩАДЬЮ** нашей столицы у меня связаны воспоминания о страшных днях фашистской оккупации. Здесь было гетто, которое я увидел впервые в 42-м году, когда выполнял задание командира партизанского отряда.

И встают передо мною густые ряды колючей проволоки. Они опоясывали район улиц Опанского, Танковой, Сухой, Заславской, Ратомской и др. Висели грозные объявления: «Вход в гетто посторонним запрещен, за нарушение — расстрел». Это были не пустые слова. Вдоль ограды ходили вооруженные полицейские и жандармы. Если они замечали, что кто-то из горожан или приезжих пытался подлезть под проволоку, чтобы передать узникам что-либо из съестного или обменять на какие-то вещи, смельчака ожидала смерть.

И я вспоминаю людей, наших, советских людей. До войны в районе Юбилейной площади жили знакомые и друзья нашей семьи евреи Туники и Руперты. Мама, захватив кое-что из продовольствия, решила поискать их и передать несчастным еду. Презирая опасность, она выбрала место и пролезла под проволоку в гетто. Это было с ее стороны мужеством, ибо не каждый бы отважился на такой поступок. Я оставался с лошадью во дворе у своей тети, жившей на Колхозной /бывшей Мало-Татарской/ улице, что на берегу р.Свислочь.

Через час-полтора мама вернулась, сказав, что знакомых не нашла, а хлеб, сало, яйца передала другим евреям-узникам. Как они были рады! В знак благодарности они всунули маме в корзину пару слегка поношенных хромовых сапог, которые потом очень пригодились мне в партизанах. Просили приехать еще и привезти хотя бы немного картошки и редьки /ведь людям нужны были витамины/. Мама пообещала и сдержала слово.

Вспомнился и такой случай. В конце лета 1943 года, находясь с группой партизан в засаде на шоссейной дороге Минск—Раков в районе Старосельского леса, мы задержали 5 или 6 молодых девушек-евреек. Как оказалось, это были гамбургские евреи, привезенные в Минское гетто для уничтожения. Родителей их фашисты уже замордовали. А девушкам с помощью добрых людей удалось вырваться из гетто и пробраться на 20 км западнее города, чтобы найти защиты у партизан.

Русским языком они почти не владели, но вскоре кое-как мы начали их понимать. Девушки уже несколько дней блуждали по лесу: голодные, оборванные, напуганные... Мы проводили их в деревню Гаище. Крестьяне их накормили, помыли, дали белье.

Через пару дней, когда наша группа следовала в Налибокскую пущу, мы забрали этих девушек с собой и там передали в еврейский партизанский отряд под командованием Семена Натановича Зорина. Будучи бесконечно благодарны нам, девушки подарили мне, как старшему группы, миниатюрные женские часы швейцарской марки. Я их потом передал в наш партизанский фонд обороны.

И, наконец, еще одно воспоминание, о котором я не могу не рассказать. Поздней осенью 1943 года в одной из деревень партизанской зоны я разговорился с белокурой девушкой-еврейкой. Она рассказала о себе. Мать расстреляли фашисты. Ей с младшей сестрой удалось выбраться из Минска и попасть в деревню недалеко от Ракова. Здесь добрые люди сестер приютили и оставили у себя как своих дочерей. Я спросил у них:

— Кто ваш отец и где он?

— Наш отец — известный в Минске детский врач Арон Самойлович Левин. Он каким-то чудом не попался фашистам в лапы, и где он сейчас — мы не знаем.

...Доктор Левин. Эта фамилия мне хорошо запомнилась с 1938 года. В ту пору я тяжело заболел. Попал в детскую больницу /мне тогда было 15 лет/ по ул.Карла Маркса в Минске. Здесь и произошло мое знакомство с человеком прекрасной души — доктором Ароном Левиным. Он меня спас. Мы стали после войны и до конца его дней большими друзьями.

Вот как бывает в жизни. Случайная встреча в партизанах с дочерью А.С.Левина /он после войны стал доктором медицинских наук, профессором/ напомнила целую страницу моей предвоенной биографии. С партизанкой Левиной мы после войны неоднократно виделись на традиционных встречах бывших партизан нашей бригады имени Щорса в деревне Тресковщина Минского района. Но вот уже несколько лет о ней ничего не знаю. Отзовитесь, партизанка Левина, дочь моего врача-спасителя!

*Александр ХАЦКЕВИЧ, доктор исторических наук, профессор.*

■ Аднавяскоўцы

# НЕ СТАМЛЯЮЦЦА РУКІ ЖАНОЧЫЯ

**Паміж вёскамі Старынкі і Крапіўнікі, што на Валожыншчыне, — разлог бурачнага поля. Калі крочыш уздоўж яго, будзе каля кіламетра шляху. Такой даўжыні і радкі, у якіх прыемнай зелянінай буяе сакаўное лісце кармавых караняплодаў.**

У гэтыя дні, калі распаленае ліпеньскае сонца шчыра «прыглядаецца» да кожнага метра зямлі, пажылому чалавеку нават улегцы адолець такую адлегласць няпроста. Таму мяне не магло не здзівіць, як дружна і самаадданa шчыравалі на гэтым палетку пенсіянеры. Іх у самай буйной гаспадарцы раёна — калгасе «Чырвоны сцяг», больш за паўтысячы. Статус пенсіянера не зрабіў іх чужымі ў калгасе. Наадварот, яны — дадатковы (і немалы!) рэзерв працоўных рук у пару важных сельгаскампаній.

...25 двароў налічвае невялічкая вёска Крапіўнікі. Усе, хто мае сілы, у гэтую пару завіхаюцца ля буракоў, ратуюць іх ад пустазелля, якое ідзе ў рост, нягледзячы на засуху.

Каму пад семдзесят, каму нават і крыху больш (старэе пацiху вёска). А вось крыніца людской працавітасці па-ранейшаму не абмялела. Па чатыры (а хто і па шэсць) даўжэзных радкоў згадзіліся прапалоць амаль усе гаспадары вёскі. У будзённыя дні пенсіянеры працуюць на дзялянках у адзіночку. А ў выхадныя прыязджаюць дзеці, унукі. І тады бурачная плантацыя прыкметна ажывае.

Вясной мясцовы брыгадзір Антон Раманчык абышоў кожную хату вяскоўцаў, расказаў пра матэрыяльныя стымулы, якія распрацавала праўленне для памочнікаў-пенсіянераў. Прапанова брыгадзіра знайшла сярод людзей амаль стопрацэнтную падтрымку. Усе, хто можа, выйшлі на свае дзялянкі. Глянеш, як шчыруюць пажылыя жанчыны, — і замілаваннем поўніцца душа. Якія руплівыя, дбайныя гэтыя былыя калгасніцы! Сумленна, клапатліва працуюць 68-гадовыя Марыя Андрушкевіч, Валянціна Кміт, а таксама іх аднавяскоўкі Галіна Гуд, Марыя Ліхтаровіч, Аліма Маркоўская, Надзея Багіна і многія іншыя. Кожная з іх заслугоўвае добрага слова.

Штогод займаюцца прапołкай буракоў і мясцовыя жывёлаводкі. Дзіву даешся, як у гэтых жанчын хапае часу і сіл і на хатнія клопаты, і на працу на ўласных сенажацях, і на тое, каб падсобіць калгасу ў гарачую летнюю пару.

Не дзеля капейкі працуюць. За адну прапалатую сотку ім выплачваюць па 2 тысячы рублёў. Такія грошы нават і харчы, узятыя з сабою ў поле, не акупяць.

Кіраўніцтва калгаса разумее і цэніць вялікую самаахвярнасць сваіх добраахвотных памочнікаў. Пасля ўборкі ўраджаю пенсіянеры, якія працавалі на бурачнай плантацыі, атрымаюць у якасці натуральнай прэміі дваццаць працэнтаў ад вырашчанай колькасці караняплодаў. Чым не падтрымка для сялянскага падвор"я?

А сёлета за кожную прапалатую сотку буракоў жыхары Крапіўнікаў і іншых вёсак калгаса атрымалі для сваіх рагуль адпаведную колькасць гатовага сена.

У размове з людзьмі я пераканалася, што для іх, пенсіянераў, важныя не толькі матэрыяльныя стымулы, але і абавязковае адчуванне таго, што і на старасці гадоў яны патрэбны свайму калгасу, што іх працу цэняць і паважаюць.

Так, пакуль не стамляюцца рукі жаночыя. Але ж па ўзросту ім пара адпачываць. І толькі шкадаваць даводзіцца, што індустрыяльныя тэхналогіі вырошчвання буракоў ніяк не могуць завітаць на нашы палеткі. Цікава, думае ў нас хто-небудзь над гэтай праблемай, ці не?

*Ірына ПАШКЕВІЧ, супрацоўніца райгазеты "Працоўная слава".*

# МІНСКАЯ ХРОНІКА

## НАДЗЕЙНАСЦЬ І ДАКЛАДНАСЦЬ

Тэнзаметрычныя стацыянарныя і настольныя гандлёвыя вагі, якія могуць працаваць з персанальнымі камп"ютэрамі, пачаў выпускаць мінскі завод "Эталон". Прадпрыемства гарантуе высокую надзейнасць і дакладнасць.

## ДАЗВОЛ З ІТАЛІІ

Рускі драматычны тэатр атрымаў аўтарскі дазвол італьянскага драматурга Дарыё Фо на пастаноўку ў Мінску яго п"есы "Вольная пара". Як стала вядома карэспандэнту РІДа, пастаноўшчык спектакля Барыс Луцэнка і выканаўца галоўнай ролі Святлана Кузьміна запрошаны ў Італію на семінар, прысвечаны творчасці Дарыё Фо.

## ДОМ МІЛАСЭРНАСЦІ

Мінгарвыканком адклікнуўся на прапанову Праваслаўнага прыходу ў гонар Усіх Святых. Вернікі збіраюцца збудаваць і абсталяваць Дом міласэрнасці, для чаго гарадскія ўлады выдзелілі каля пяці гектараў зямлі па Старабарысаўскаму тракту.

## ЗАПРАСІЎ «РАСІЙСКІ ФЕРМЕР»

Менавіта так называецца міжнародная ярмарка, якая пройдзе ў Санкт-Пецярбургу з 29 жніўня па 4 верасня 1994 года. Для ўдзелу ў ёй запрошаны Мінскі трактарны завод.

Трактарабудаўнікі акрамя сваёй асноўнай прадукцыі распрацоўваюць да ярмаркі эскізы новых машын, на якія будзе вывучацца попыт. Мяркуецца, што на берагах Нявы будуць заключаны дагаворы, устаноўлены кантакты з новымі партнёрамі.

## ВЫВУЧАЮЦЬ АМЕРЫКАНЦЫ

У Мінску знаходзяцца прадстаўнікі амерыканскай фармацэўтычнай фірмы, якія таксама прадстаўляюць Агенцтва гандлю і развіцця ЗША. Мэта іх прыезду ў Беларусь — збор інфармацыі для правядзення тэхніка-эканамічнага абгрунтавання накірункаў развіцця фармацэўтычнай прамысловасці ў нашай рэспубліцы. Паводле звестак БелаПАН, у ходзе перагавораў беларускі бок перадаў прадстаўнікам ЗША пералік праектаў, якія мяркуецца ажыццявіць з дапамогай Агенцтва гандлю і развіцця.

## ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Першы том "Бібліятэкі замежнай дзіцячай літаратуры" выйшаў у выдавецтве "Юнацтва". У ім змешчаны вядомы раман Даніэля Дэфо "Рабінзон Круза". Пераклад на беларускую мову зрабіла пісьменніца Алена Васілевіч.

Усяго гэтая серыя будзе складацца з трыццаці тамоў.

## НАВЕДАЛІ ІНВАЛІДАЎ

Прадстаўнікі мінскай фірмы "Эспада", фірменнага магазіна Беларускага таварыства інвалідаў "Ветразь" і малога прадпрыемства "Соінга" наведалі спінальнае аддзяленне Мінскай раённай бальніцы, дзе лечыцца каля трыццаці інвалідаў-калясачнікаў. Яны прывезлі каляровы тэлевізар і іншыя падарункі. Цэнтральнае праўленне БелТІ ўручыла кожнаму хвораму па 100.000 рублёў.

## ПЕРШЫ ВЫПУСК

У Акадэміі міліцыі адбыўся першы выпуск спецыялістаў судова-медыцынскага факультэта. Прыйшоўшы сюды з дыпломамі ўрача, слухачы грунтоўна авалодалі сучаснымі даследаваннямі ў крыміналістыцы, набылі веды ў галіне права.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*



Беларускія інваліды па зроку даўно зарэкамендавалі сябе здольнымі лёгкаатлетамі: сярод іх тры чэмпіёны свету, два чэмпіёны Алімпійскіх гульняў, шаснаццаць пераможцаў усесаюзных спаборніцтваў. Спецыялізаваныя чэмпіянаты для людзей, якія страцілі зрок, праводзяцца рэгулярна ва ўсіх краінах.

НА ЗДЫМКУ: слесар-зборшчыца Маладзечанскага прадпрыемства таварыства сляпых Жанна ХОМЧЫК, якая актыўна займаецца спортам.

*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.*

■ К новому учебному году

# Кого готовим, как готовим?

**Хороших успехов в подготовке будущих специалистов добивается коллектив Солигорского педагогического училища, которое до недавнего времени готовило учителей начальных классов и воспитателей детсадов. Его учащиеся занимают высокие места в республиканских конкурсах профессионального мастерства, хорошо показывают себя, работая в средних школах, детских садах. Педагоги постоянно совершенствуют учебно-воспитательный процесс. Наш внештатный корреспондент встретился с заместителем директора педучилища по учебной части Г.П.ГАЛАЙ.**

***— Галина Павловна, в училище закончился учебный год, в чем его особенности?***

— Жизнь, современные требования убеждают в том, что нужно готовить не узких специалистов, а педагогов, воспитателей с дополнительной специализацией, которые бы в условиях сокращения кадров не потеряли работу. В минувшем году мы ввели дополнительную специализацию. На школьном отделении добавили музыку, логопедию, иностранные языки, белорусские народные промыслы, а на дошкольном — те же логопедию и белорусские народные промыслы. Короче, в своей отрасли ведем подготовку специалистов дополнительного профиля одними из первых в республике. В связи с этим успешно прошла апробация новых учебных планов и программ. Усовершенствовали методику преподавания новых дисциплин. Введена в штат должность психолога. В этом учебном году выпустили только одну учебную группу — учителей начальных классов. В предыдущем выпускных групп было восемь. Это объясняется тем, что с введением дополнительной специализации срок обучения увеличивается до 3-х лет.

***— В училище теперь много говорят о педагогическом эксперименте. В чем его суть?***

— В будущем учебном году мы набираем по собеседованию группу (25 человек) медалистов на школьное отделение без специализации. Ее учащиеся будут заниматься по учебному плану Белорусского педагогического университета, с которым у нас есть договоренность. Срок обучения три года. После окончания учебы учащиеся, которые получат диплом с оценками «4" и »5", поступят без вступительных экзаменов на четвертый курс белорусского педагогического университета. Те, кто учился хуже, получают диплом о среднем специальном образовании. Замечу, что на вступительных и выпускных экзаменах в этой группе будут присутствовать представители педагогического университета. Они же осуществляют контроль за ходом учебы в этой группе. Вот, коротко, суть этого эксперимента.

***— В учебные планы училища введены новые дисциплины. Расскажите о них.***

— Учебные планы наш педколлектив разрабатывает с учетом современных требований подготовки педагогических кадров. Увеличено количество часов по белорусскому языку и литературе. Третий год преподается такой интересный предмет, как этнография Беларуси, второй год — белорусский фольклор.

Одними из первых среди педучилищ республики мы ввели в свой учебный план историю религии. Словом, стараемся не отставать от жизни, учиться у нас интересно.

***— Галина Павловна, не потеряла ли молодежь интерес к профессии педагога?***

— Думаю, что нет. Это подтверждает прежде всего конкурс в училище. В минувшем учебном году он составлял от 3 до 5 человек на место, а на специальность логопеда до 7. Вместе с тем, на музыкальное отделение конкурс небольшой, т. к. мы принимаем сюда только тех, кто имеет музыкальную подготовку — окончили музыкальные школы, студии и т.д.

***— В связи с повсеместным сокращением кадров, существует острая проблема трудоустройства молодых специалистов, и не только их. Как трудоустраиваются выпускники педучилища?***

— В будущем учебном году мы выпустим по три группы выпускников школьного и дошкольного отделений. Проблему смягчит то, что 30 учащихся занимаются по договорам, заключенным педучилищем с предприятиями и организациями Солигорского района, области. Часть ребят занимается у нас по целевым направлениям городских и районных отделов образования Минщины. Выпускники и будут там трудоустроены, так как в них нуждаются на местах. Во всяком случае, администрация училища в силу своих возможностей будет помогать найти работу всем своим воспитанникам. Думаю, поможет в этом важном деле и тесный контакт со школами и детскими садами города Солигорска и района, где они проходили педагогическую практику, и где для нее создаются хорошие условия.

Как видите, мы от требований не отстаем, а наоборот стараемся их опережать. Педколлектив ведет настойчивый поиск новых форм работы, трудится с творческим огоньком, проводит интересную внеклассную воспитательную работу, тематические вечера, КВН, диспуты, творческие встречи в психологической гостиной и т.д. Недавно по своей инициативе ввели в учебный процесс на школьном отделении занятия по хореографии и ритмике.

*Беседовал Анатолий ПАНАСЕНКО, заведующий отделом солигорской городской газеты "Солигорский вестник".*

# Падлеткавы "люмпен" выходзіць на сцежку злачыннасці

***Як гэта ні драматычна, але прыходзіцца прызнаваць, што дзіцячая і падлеткавая злачыннасць набывае сёння небывалы размах. Па сваёй жорсткасці, цынізму і непрадказальнасці яна часам ставіць у тупік нават вопытных і да ўсяго звыклых работнікаў праваахоўных органаў. Нядаўна тэме дзіцячай і падлеткавай злачыннасці было прысвечана расшыранае пасяджэнне калегіі абласной пракуратуры. На ёй абмяркоўваліся вынікі праверкі выканання Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і работы па папярэджванню правапарушэнняў сярод навучэнцаў". Акрамя супрацоўнікаў пракуратуры і міліцыі, у рабоце калегіі прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі сістэмы народнай адукацыі. Ніжэй прапануюцца нататкі з гэтага мерапрыемства.***

## Што сведчыць статыстыка

Статыстыка, на жаль, дае мала падстаў да аптымізму. Так, за апошнія пяць гадоў колькасць злачынстваў у вобласці, учыненых падлеткамі, узрасла больш чым напалавіну. А іх удзельнікаў — на 36,3 працэнта. «Спектр» злачынстваў надзвычай багаты: крадзяжы, злоснае хуліганства, сур'ёзныя адміністратыўныя парушэнні, згвалтаванні. І завяршаюць гэты пералік жорсткія забойствы. Такі выпадак здарыўся два гады назад у Валожынскім раёне. А ў чэрвені сёлета аналагічны факт адбыўся на Лагойшчыне. Шаснаццацігадоваму П. прад'яўлена абвінавачванне ў наўмысным забойстве трынаццацігадовага Ж.

Вострай застаецца праблема п'янства сярод навучэнцаў. Сёння набыць бутэльку гарэлкі можна без асаблівага клопату. У гарадах, напрыклад, яна прадаецца ледзь не на кожным кроку. З прывабнымі каляровымі этыкеткамі. Лічбы сведчаць, што за мінулыя два гады за п'янства было пакарана 1247 школьнікаў і 1587 навучэнцаў ПТВ. У інпекцыях для непаўналетніх на ўліку знаходзіцца звыш тысячы чалавек. Найбольшая колькасць фактаў дзіцячага алкагалізму выяўлена ў Мінскім, Слуцкім, Любанскім раёнах, гарадах Барысаве, Жодзіне.

Рады непаўналетніх злачынцаў папаўняюцца тымі падлеткамі, якія ў сілу розных абставін і прычын аказаліся «за бортам», г. зн. нідзе не вучацца і не працуюць. Такіх па вобласці налічваецца зараз больш за 700 чалавек. Як паказала праверка, адны падлеткі самі не жадаюць працаваць, другім адмовілі ў рабоце. Менавіта з такіх вось «люмпенаў» і фарміруецца зараз крымінальнае асяроддзе. Не выпадкова ў мінулым годзе ў параўнанні з 1992 павялічылася колькасць непаўналетніх злачынцаў, якія нідзе не працавалі і не вучыліся.

## А ў класах — пустыя парты

Менавіта такі малюнак давялося назіраць работнікам пракуратуры, наведаўшы аднойчы вочна-завочную школу ў горадзе Жодзіна. На ўроку беларускай мовы ў восьмым класе з 17 вучняў прысутнічала толькі 3. На ўроку гісторыі ў дзевятым класе з 28 — усяго 7. А на ўроку фізікі ў дзесятым класе з 15 чалавек па спісу за партамі сядзелі толькі трое. Дарэчы, тут варта ўспомніць былую вучаніцу гэтай вочна-завочнай установы Ірыну К. Разам са сваёй сяброўкай Аленай Т. яна ўзяла за звычку прагульваць урокі. Бадзяліся па горадзе, заходзілі ў пад'езды. Вынікам такога вандроўніцтва сталі дзесяць злачынстваў: крадзяжы рабаванні, разбойныя напады. Абедзве дзяўчыны зараз адбываюць пакаранне. Падобныя прыклады можна прыводзіць і прыводзіць. Некалькі вучняў СШ №9 горада Слуцка рэгулярна не наведвалі заняткі. Чым жа яны займаліся? На працягу некалькіх месяцаў кралі маёмасць у людзей. За гэта асуджаны. Школа, педагогі цярпліва адносіліся да такіх фактаў. А, прасцей кажучы, ніякай выхаваўчай, прафілактычнай работы не праводзілася. Падлеткі, адчуўшы волю і беспакаранасць, сталі здзяйсняць процiпраўныя ўчынкі. Сумна гаварыць і прызнаваць, але аналіз злачынстваў, учыненых непаўналетнімі, сведчыць, што ў шэрагу выпадкаў школа наогул ухіляецца ад сур'ёзнай выхаваўчай работы. Нікога не клапоціць, дзе прападае падлетак, чаму яго месца за партай пустуе. Трэба думаць, менавіта такія адносіны дазволілі вучню СШ №1 г.п. Плешчаніцы В. прагуляць без сур'ёзнай прычыны 287 вучэбных гадзін. Краў, знаходзіўся на ўліку ў міліцыі. А ў выніку аказаўся замешаным у забойстве 13-гадовага Ж.

«Вакуум» у выхаваўчай рабоце школы адразу ж запаўняе вуліца. У яе свая «педагогіка». Падлеткі збіваюцца ў групы: так заўсёды дзейнічаць смялей. Знаходзіцца, як правіла, важак. А беспакарана здзейсненае адно злачынства цягне за сабой другое, трэцяе. Пакуль не спыніць міліцыя.

## Тады яна ўзяла нож

Тая раніца ў сям'і Л., што пражывае ў Бярэзінскім раёне, пачалася з лаянкі. Сужыцель Е., будучы ў нецвярозым стане, стаў прымушаць дзяцей есці недавараную бульбу. Старэйшая, Света, адмовілася. Е. пачаў за гэта дзяўчынку біць. Даведзеная да адчаю і, каб неяк абараніцца, Света хапіла трапіўшы ёй выпадкова пад руку нож і ўдарыла Е. Ад нанесеных цялесных пашкоджанняў ён памёр. Крымінальная справа ў адносінах Светы, з-за яе непаўналецця, прыпынена.

Прыведзены факт прымушае глыбока задумацца. Не па сваёй волі схапіла дзяўчынка нож. У сям'і ўжо даўно была ненармальная абстаноўка: маці і яе сужыцель пастаянна п'янствавалі, учынялі лаянкі, бойкі. Для дзяцей (а іх у сям'і трое) не было належных умоў ні для вучобы, ні для адпачынку. Е. пастаянна папракаў дзяцей, што ён іх корміць.

Педкалектыў школы, дзе вучылася Света, нічога не зрабіў, каб аздаравіць абстаноўку. Не хадайнічаў аб пазбаўленні яе маці бацькоўскіх правоў. Хоць для гэтага меліся ўсе падставы. У інспекцыі па справах непаўналетніх гэтай сям'і таксама ніякай увагі не ўдзялялася.

Вельмі дрэнна, калі ў выніку бяздушша, абыякавасці, інертнасці з боку школы, праваахоўных органаў глыбока траўміруюцца дзеці. Рэакцыя бывае запозненай, калі ўжо паправіць амаль нічога немагчыма. Тое, што здарылася ў адным з раёнаў вобласці, мякка кажучы, не мае ніякага апраўдання. Хранічны алкаголік І., двойчы судзімы за хуліганскія ўчынкі, рэгулярна жорстка збіваў жонку, дзяцей, выганяў з дому. На працягу двух гадоў гвалціў сваю непаўналетнюю дачку. Свой пратэст супраць дзікіх дзеянняў бацькі яна выражала тым, што сыходзіла з дому. Начавала ў лесе, на вакзале, гарышчах. Былі выпадкі, калі дзяўчынка па некалькі дзён не наведвала школу. І гэта нікога не турбавала. Маці яе часта забірала з сабой на работу, баючыся пакідаць дома з бацькам. Школа, міліцыя, працоўны калектыў, сельскі Савет — усе ведалі пра такое ненармальнае становішча ў сям'і. І ніякай дапамогі, рэакцыі. У рэшце рэшт, І. за свае ўчынкі ў адносінах да дачкі быў асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі.

## «Па першаму разу не судзяць»

Абмяркоўваючы крымінагенную абстаноўку ў вобласці, звязаную з падлеткавай злачыннасцю, узельнікі калегіі адназначна канстатавалі, што ў школах, ПТВ прафілактычная работа знаходзіцца на нізкім узроўні. У асяроддзі падлеткаў бытуе думка, што «па першаму разу не судзяць». Сапраўды, суды не спяшаюцца адправіць падлетка, якому 15—16 гадоў, «на зону». І не таму, што праяўляюць залішнюю мяккасць. Прычына часцей бывае іншая: там падлетак наўрад ці перавыхаваецца ў лепшы бок. Вось яму і даюць адтэрміноўку, каб адумаўся, узяўся за розум. Што ж, адны сапраўды робяць правільныя вывады. А другія, наадварот, лічаць сябе героямі і працягваюць канфліктаваць з законам.

Сям'я — школа. Вось на чым, па сутнасці, трымаецца выхаванне падрастаючага пакалення. Не павінны ад гэтага быць убаку і работнікі міліцыі. Прычым, не тады, калі ўжо злачынства здзейснена. А таксама дапамагаць праводзіць прафілактычна-выхаваўчую работу. Аб гэтым было шмат сказана на пасяджэнні калегіі.

Вядома, выхоўваць у падлеткаў павагу да закона складана. Эканамічныя цяжкасці, расслаенне грамадства на бедных і багатых, маральная дэградацыя грамадства наводзяць падлетка на думку, што ўсё дазволена. Гэта і ёсць тая памылка, якая іншы раз даводзіць да трагедыі. Прадухіліць яе можна. Калі мы ўсе зразумеем, што выхаванне — наш агульны клопат. І вельмі важна не даць падлеткавай злачыннасці «заглыбіцца», пусціць карані. Пакуль яшчэ час не страчаны.

*Мікалай ЖУЧКО.*

■ Лёсы людскія

# З кляймом "ненадзейнага і падазронага"

***Калі сямігадовы Грыша Парэчын упершыню прыйшоў у сельскую школу, радасць яго была бязмежная. Аб сваіх здольнасцях ён нават не думаў. А бацькам вельмі хацелася, каб іх сынок працёр вочы: можа, што выйдзе з яго, можа, спраўдзяцца яго мары.***

***Нарадзіўся ён 8 сакавіка 1894 года ў вёсцы Задашчэнне (зараз Шацкі сельсавет Пухавіцкага раёна). Бацькі яго былі беднымі сялянамі, цёмнымі і забітымі. Ім "мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці". Таму вельмі радаваліся, што Грыша стараецца, ад кніжак не адрываецца, што настаўнік яго хваліць. За час вучобы ў пачатковай школе хлопчык шмат аб чым даведаўся, набыў неадольную прагу да ведаў, а вось пра слова "канстытуцыя" нават не чуў.***

Прайшло нямала гадоў. Неспадзявана ў жыцці адбыліся вялікія перамены, якія закранулі і лёс Грышы Парэчына. На пяты год пасля рэвалюцыі яго залічылі студэнтам юрыдычнага факультэта І-га Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён прыйшоў у аўдыторыю зусім дарослым чалавекам, ведаў, чым пахне хлеб і порах, таму даражыў кожнай хвілінай. Будучы юрыст уважліва слухаў лекцыі прафесараў, чытаў падручнікі, абменьваўся думкамі з аднакурснікамі. Яго апанавала моцнае жаданне паўней пазнаць, "как государство богатеет и чем живет...", як пабудавана і як кіруецца.

Рыгор Парэчын праявіў выключную здольнасць да самаадукацыі, гадзінамі праседжваў у бібліятэцы, грунтоўна вывучаў юрыдычную літаратуру. Будучы студэнтам, ён напісаў кнігу "Савецкія рэспублікі ў іх узаемаадносінах", працаваў над брашурай аб Брытанскай імперыі. У студэнцкім зборніку "Змаганне", які выйшаў у 1924 годзе ў Маскве, Парэчын змясціў свой артыкул "Савецкая Беларусь у зносінах з замежнымі дзяржавамі", змест якога мае цікавасць і для сённяшняга чытача. У самым пачатку аўтар адзначаў: "Сучаснае вучэнне аб дзяржаве прызнае, што суверэнітэт дзяржавы ясна і бясспрэчна вызначаецца ў яе праве на самастойныя зносіны з замежнымі дзяржавамі..."

Ён паслядоўна высвятляе, ці было гэтае права ў Беларусі, якая была абвешчана незалежнай рэспублікай 1 студзеня 1919 года. Праз некалькі дзён яе незалежнасць была прызнана ўрадам РСФСР. А што ж адбылося далей? Ужо ў жніўні пачалася белапольская акупацыя, якая перашкодзіла нам аформіць сваё дзяржаўнае існаванне. Толькі праз год рэспубліка вярнулася да дзяржаўнага жыцця. Калі ў снежні 1920 года стала ясна, што нам не пагражае заходні сусед, на Другім Усебеларускім з'ездзе Саветаў упершыню былі ўтвораны народныя камісарыяты, Наркамат замежных спраў БССР існаваў з 1922 года.

Рыгор Парэчын паказаў, што Расія не абмяжоўвала нашы правы на дыпламатычныя зносіны з замежнымі краінамі. Першай Беларусь прызнала Польшча, другой — Германія. Фактычныя адносіны (дэ факта) наша рэспубліка мела з Латвіяй, Літвой, Эстоніяй, Англіяй, Аўстрыяй, Італіяй, Турцыяй, Чэхаславакіяй. Але сваімі правамі на непасрэдныя зносіны яна карысталася мала. Аўтар гэта тлумачыць наступным чынам: "Наша рэспубліка не мела на мэце дэманстраваць перад усім светам сваю незалежнасць ад іншых савецкіх рэспублік. Наадварот, яна заўсёды хацела паказаць, што яна ёсць арганічная частка вялікай сям'і Савецкіх Рэспублік, якія складаюць адзіны магутны савецкі стан супраць стану буржуазнага.

Але гэта не значыць, што ў пытаннях не прынцыповага, а практычнага характару Савецкая Беларусь адмаўлялася ад сваіх правоў на самастойныя зносіны з тымі дзяржавамі, якія мелі для яе асаблівы інтарэс".

Ён прыводзіць прыклад: у Берліне мы мелі свайго паўнамоцнага прадстаўніка, у Варшаве — свайго пасланніка. Парэчын — адзін з першых даследчыкаў нашай незалежнасці, які ішоў ад факта, ад праўды гісторыі, таму яго сведчанні маюць велізарную каштоўнасць.

Не даводзіцца здзіўляцца, што пухавіцкі хлопец выдатна скончыў Маскоўскі універсітэт і прыехаў у Мінск. У 1925 годзе яго залічылі супрацоўнікам праваой секцыі Інстытута беларускай культуры, членамі прэзідыума якога ў той час былі У.Ігнатоўскі, Я.Каранеўскі, З.Жылуновіч, А.Вольны, Б.Аршанскі. Тут ён пазнаёміўся з юрыстам М.Гуткоўскім, этнографам А.Шлюбскім, беларускімі пісьменнікамі М.Гарэцкім, М.Зарэцкім, Я.Коласам, Я.Купалам, з паэтам-земляком М.Чаротам і іншымі дзеячамі культуры. Рыгор Парэчын стаяў ля вытокаў станаўлення юрыдычнай навукі ў рэспубліцы, плённа працаваў і хутка быў выбраны навуковым сакратаром праваой секцыі Інбелкульта.

Малады вучоны разам з іншымі правазнаўцамі Інбелкульта ўдзельнічаў у стварэнні і прапагандзе канстытуцыйных законаў рэспублікі. Пасля ўтварэння СССР паўстала пытанне аб распрацоўцы новай Канстытуцыі БССР, якая была прынята на VIII Усебеларускім з'ездзе Саветаў (у красавіку 1927 г.).

На думку спецыялістаў, сярод прац беларускіх юрыстаў дваццатых гадоў вылучаюцца творы Рыгора Парэчына. Яго кніга "Наша канстытуцыя", якая выйшла ў 1928 годзе, прысвечана аналізу і тлумачэнню зместу Асноўнага Закона БССР.

Аўтар праявіў выдатнае веданне прадмета і мовы, уменне зразумела і папулярна выкласці матэрыял. Гэта дазволіла навукова-метадычнаму камітэту рэспублікі рэкамендаваць яго кнігу ў якасці падручніка для навучэнцаў тэхнікумаў і прафшкол. Нормы Канстытуцыі Рыгор Парэчын разглядае ў цеснай сувязі з аналізам прававога статуса Беларусі як члена федэрацыі СССР, нацыянальнай палітыкі Савецкай улады. Ён даў тлумачэнні важнейшых этапаў развіцця беларускай дзяржаўнасці — абвяшчэнне БССР, дзяржбудаўніцтва ў гады грамадзянскай вайны, уваходжанне ў склад СССР, узбуйненне і раяніраванне рэспублікі, яе герб і сцяг.

Парэчын растлумачыў, што жытнія каласы, якія сталі кампанентам герба БССР (1927 г.), сведчаць пра тое, што наша асноўнае багацце — сельская гаспадарка, а канюшына адлюстроўвае культурны напрамак гаспадаркі альбо яе інтэнсіфікацыю. Дубовая галінка — сімвал лесу, другога асноўнага багацця беларускага народа.

Самае цікавае тое, што, гаворачы пра герб, юрыст арыентуе грамадзян на яго безумоўна стваральны, а не ваяўнічы змест, на яго накіраванасць уперад, у будучыню, а не назад, у далёкае мінулае. Менавіта палітычная перспектыва, стварэнне нацыянальнага багацця датычацца адвечнага паняцця "прагрэс". Гэта і павінна быць адлюстравана ў гербе.

У гісторыі любой нацыі хапала крыві, новыя пакаленні павінны жыць без войнаў, таму ў гербе не павінна быць ніякіх ваенных сімвалаў накшталт мяча, шчыта, вінтоўкі. Рыгор Парэчын лічыў, што герб — сімвал дзяржаўнага суверэнітэту і сімвал новага, больш уладкаванага жыцця, дзе пальма першынства аддаецца матэрыяльнаму і духоўнаму развіццю грамадства.

Адметнай з'явай у галіне юрыдычных даследаванняў Інбелкульта сталі "Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы кафедры сучаснага права" (1929 г. ). У гэтым зборніку быў змешчаны артыкул Р.Я.Парэчына "Ідэя беларускай дзяржаўнасці перад утварэннем Савецкай Беларусі", у якім ён асвятляе гісторыю ўтварэння БССР і прыходзіць да вываду, што цесныя эканамічныя і культурныя сувязі рэспублік — асноватворны жыццёвы прынцып, якога прытрымліваюцца беларускія працоўныя масы ў будаўніцтве новага жыцця, у вызначэнні свайго лепшага будучага.

Аднак крытыкі-вульгарызатары палічылі, што яго артыкул наскрозь прасякнуты духам нацыянал-дэмакратызму. Іх насцярожыла тое, што Парэчын упамінае мноства гістарычных імёнаў, многія з якіх у той час — З.Жылуновіч, У.Ігнатоўскі, В.Ластоўскі, Я.Лёсік, — выкрываліся ва ўчыненні "нацпамылак", падазраваліся ў варожасці, у вырысоўванні ганебных нацыяналістычных установак.

У сувязі з гэтым доктар юрыдычных навук В.А.Круталевіч піша: "Адну з такіх установак бачылі ў характарыстыцы Р.Парэчыным умоў абвяшчэння БССР і ролі ў гэтым гістарычным акце некаторых асоб і арганізацый. У той час старанна абыходзілася пытанне аб памылках кіраўніцтва Заходняй вобласці ў нацыянальным пытанні. Больш таго, ленінская ініцыятыва абвяшчэння Беларускай Савецкай Рэспублікі (менавіта суверэннай рэспублікі) прыпісвалася дзеячам Заходняй вобласці, якія адмаўляліся бачыць у беларусах самастойную нацыю і да канца снежня 1918 года (гэта значыць, да пастановы ЦК РКП(б)) былі супраць самавызначэння Беларусі, а пасля абвяшчэння БССР разглядалі гэтую меру як тактычны ўрок, звязаны са знешнепалітычнымі абставінамі, а не з асноватворнымі прынцыпамі вырашэння нацыянальнага пытання ў краіне".

Прыдзірлівая, ненавуковая крытыка насіла выкрывальны характар, ставіла "каінаву пячатку", пасля чаго даследчык трапляў у ранг падазроных ці "ворагаў народа". Паводле слоў В.Круталевіча, крытыка ў адрас Р.Парэчына паслужыла адной з падстаў для абвінавачвання кафедры сучаснага права ў палітычных памылках. Так і працаваў беларускі правазнаўца з кляймом "ненадзейнага і падазронага".

24 студзеня 1937 года Рыгора Парэчына неабгрунтавана арыштавалі і пасадзілі ў турму. У чэрвені 1938 года Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР прыгаварыла яго да вышэйшай меры пакарання, 28 чэрвеня кваліфікаваны юрыст Р.Я.Парэчын быў расстраляны ў Мінску. 1 жніўня 1957 года ён рэабілітаваны пасмяротна.

Добра, што да ўсіх нас, да сваіх землякоў вярнулася імя чалавека, які зразумеў сваю адказнасць за развіццё ўласных здольнасцей, які даследаваў складаныя адносіны асобы і грамадства, далучаў людзей да юрыдычнай навукі, вучыў іх паважаць сваю Канстытуцыю. Сучасным грамадзянам, якія імкнуцца жыць па законах права, трэба памятаць пра вялікія ахвяры, якія сталі вынікам беззаконня і узурпацыі ўлады.

*Эдуард КАРНІЛОВІЧ, кандыдат гістарычных навук.*

